Ніва
ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА
№ 23 (278) | ГОД VII | БЕЛАСТОК 10 ЧЭРВЕНЯ 1962 | ЦАНА 60 ГР.

НА КУБАК «НІВЫ»

# МАСТАЦКАЯ САМАДЗЕЙНАСЦЬ НА ДОБРЫМ УЗРОЎНІ



Танец «Лянок» у выкананні дзяўчат з вёскі Пілікі.
Фота М. ТАРАСЕВІЧ

За заслонаю, у бакоўных і нават на калідоры адбываюцца апошнія ўжо рэпетыцыі. У адзінку і калектыўна. Кожны ўдзельнік стараецца, каб яго гурток мастацкай самадзейнасці быў ацэнены як найлепш. Вычуваецца гэтае з хвалюючых размоў, хвалюючых і нярэдка поўных упэўненасці, што ўсё атрымаецца добра. Рашаючым аб выніку і поспехах кожнага калектыву з'яўляецца эфектнасць выканання акрэсленага рэпертуару.

Нашым патрабаванням адносна турніру найлепш адказаў мастацкі калектыў з вёскі Казлы, Бельскі павет. І ён жа атрымаў кубак «Нівы» за 1962 г.

Рэпертуар казлоўскага калектыву вельмі разнастайны. Песні, танцы, драматычная секцыя, гумар і дэкламаванне вершаў. Адным словам — усё тое, што можна падрыхтаваць і дэманстраваць у вясковых умовах. Усе ўдзельнікі калектыву — людзі маладыя. У некаторых прыкмячаюцца немалыя здольнасці. Напрыклад, калі праспявала Оля Пятроўская беларускую песню «Чабарок», дык за апладысментамі пачуліся словы: «вось голас, дык голас». На высокім узроўні казлоўская моладзь паставіла п'есу «Выпрабаванне». На ўвагу заслугоўвае тут факт, што ў пастаноўцы ўспамянутай п'есы самадзейнікі рэалізавалі нават ускладненыя сітуацыйныя моманты. Казлоўскі калектыў апрача кубка «Нівы» атрымаў радыёлу «Каралінка» і ганаровую грамату «Нівы.

У групе інструментальна - харавых калектываў І месца заняў спалучаны калектыў Пілікаў і Орлі пад кіраўніцтвам Пятра Нявінскага. Ён атрымаў грашовую ўзнагароду і ганаровую грамату «Нівы».

У групе драматычных гурткоў І месца заняў калектыў са Скупава, Гайнаўскі павет. Ён паставіў п'есу Янкі Купалы «Прымакі». Пастаноўка была вельмі ўдачнай. І, здаецца, вясковаму драмгуртку немагчымым было б зрабіць гэта яшчэ лепш, чымсьці атрымалася ў моладзі са Скупава. І гэты драмгурток атрымаў грашовую ўзнагароду і ганаровую грамату «Нівы».

ІІ-я месцы занялі гурткі: з вёскі Баршчэва, Беластоцкі павет, і са Старога Ляўкова, Гайнаўскі павет. Яны таксама ўзнагароджаны грашовымі ўзнагародамі і граматамі.

Гаворачы агульна турнір мастацкай самадзейнасці на кубак «Нівы» за бягучы год, які адбыўся 21 мая ў доме «Гурніка» ў Гайнаўцы, быў вельмі карысным мерапрыемствам, якое шмат прычынілася да ўзбагачэння рэпертуару многіх гурткоў, і то ў добрым напрамку.

М. КУРАШ.

# ПАЭЗІЯ ЯНКІ КУПАЛЫ

Ёсць паэты, з імем якіх звязана ўяўленне аб усім народзе, аб багацці яго нацыянальнай культуры. Да такіх паэтаў належыць і Янка Купала — «першая з вяршынь беларускага Эльбруса паэзіі», як сказаў аб ім украінскі паэт Паўло Тычына.

Роля Купалы ў гісторыі беларускай літаратуры велізарная. Асабліва вялікія яго заслугі ў развіцці беларускай паэзіі, дзе найбольш поўна, глыбока і ўсебакова раскрыўся магутны талент гэтага знамянальнага мастака слова.

Бліскучы майстар верша, Янка Купала стварыў класічныя ўзоры лірыкі. Ён надаў беларускаму вершу незвычайную гнуткасць і выразнасць, адкрыў у ім такія магчымасці, якіх не ведала ранейшая беларуская паэзія. «Адвечная песня», «Курган», «Бандароўна», «Сон на кургане», «Магіла льва», «Яна і я», «На пасе», «Над ракой Арэсай», «Тарасова доля», — гэтыя і шмат іншых твораў характарызуюць Купалу як паэта вялікай мастацкай літаратуры.

(Працяг на стар. 3)



Ілюстрацыя А. Ліпеня, рабочага з горада Гродна, да паэмы «Курган» — Гусляр (таніраваны гіпс).

# ДА ЧЫТАЧА

«Ніва» — газета самая блізкая беларускай вёсцы. Газета, якая вырасла з патрэб і зацікаўленняў гэтай вёскі. У ёй, як у люстры, адбіваецца жыццё сучаснай Гайнаўскай, Бельскай, Беластоцкай, Сакольскай вёскі.

«Ніва» расказвае, вучыць, весяліць.

Прыпамінаем:

Улічваючы спецыфіку летняга сезона, рэдакцыя рыхтуе цікавыя матэрыялы для друку ў «Ніве» ў гэты перыяд.

У далейшым будзе працягвацца аповесць аб слаўным разведчыку другой вайны «Барон фон Гольдрынг». Чым далей, тым дзеянне аповесці цікавейшае, больш напружанае.

Таму прыпамінаем:

Каб абяспечыцца «Нівай» на летні сезон, не забудзь, дарагі Чытач, ужо зараз зрабіць на яе падпіску на пошце, ці ў пісьманосца.

Рэдакцыя




## БАРАНОЙ па ПУСТАЗЕЛЛІ

Няма ў нас пашаны да людской працы, ай няма! Яе замяняюць варварскія адносіны. Служу прыкладам. Калі вы будзеце праязджаць або праходзіць па шашы, што з Беластока ў Гайнаўку, звярніце ўвагу на яе бакі на адрэзку паміж Трасцянкай і Анцутамі, а ўбачыце ў многіх месцах замест прыгожых зялёных дрэўцаў толькі тырчачыя стырбакі. Як цяжка робіцца на сэрцы, што дрэўцы не маглі зрабіцца зялёнымі, упрыгожваць асфальтовую шашу. І злосць жа паяўляецца адначасова на тых, хто ламаў іх на «бічы». Эх, народзе, народзе! Чаму культура — слова чужое? А можа вучні трасцянскай школы паклапоцяцца, каб тыя, яшчэ растучыя, дрэўцы на ўспамянутым адрэзку шашы не сустрэла няшчасце.

М. К.



— Гаварыў я, што на абед прыду з прыяцелем.



Кіраўнік, намеснік, намеснік намесніка і іншыя...

## САМААБСЛУГОЎВАННЕ

### ХВАЛЬКО

— Чуў, як я ўчора спяваў? Голас проста не змяшчаўся ў зале.

— Не чуў, а бачыў.

— Што бачыў?

— Бачыў, як людзі выходзілі, каб уступіць твайму голасу месца.

Прыслаў Мікалай Ручай

### У ШКОЛЕ НА ЭКЗАМЕНЕ

Настаўнік да вучня:

— Скажы пытальны сказ.

— Ці смачная была гуска, якую маці мая дала вам, пане настаўнік?



Прашу ўваходзіць!

### ТРЫ СЯСТРЫ

Пан Каладзінскі сустракае свайго зямляка, якога даўно не бачыў.

— Добры дзень. Што новага? Што цяпер робіш?

— А вось жыву сабе цяпер з трыма сёстрамі: на вёсцы, далёка ад горада.

— Ой, табе ж вельмі сумна!

— Дзе ж там, гэта не мае сёстры.

Прыслаў Аркадзь Латоўскі



Непераможны

### КАНЦЭРТ ПА ЗАЯЎКАХ

**На просьбе Зіны Чыжэўскай з Беластока і Клаўдзіі Дабрынскай з Лапскага павета змяшчаем песню «Не глядзі на другіх».**

## НЕ ГЛЯДЗІ НА ДРУГІХ

Словы А. Русака — Музыка Ю. Семянякі



Не глядзі на другіх
Патайком ад мяне,
Калі сэрца сваё
Ты аддаў толькі мне,
Я ніколі цябе
Не аддам, не аддам,
Можа гэтаму ты
Не паверыш і сам.
Не палюбіць ніхто
Цябе гэтак, як я,
Аб табе аб адным
Толькі песня мая.
Для цябе аднаго
Паміж соцен вачэй
Загарацца здалёк
Мае вочы ярчэй.
Не глядзі на другіх
Патайком ад мяне,
Калі сэрца сваё
Ты аддаў толькі мне.
Будзе сонца свяціць
Светлай радасцю нам,
Я ніколі цябе
Не аддам, не аддам.

## ЛЯЧЭННЕ

Маракі маюць рацыю, калі лічаць прысутнасць жанчыны на караблі як прадказальнік нейкага няшчасця, — сказаў Кастусь.

— Няўжо твой жыццёвы шлях перагарадзіла жанчына? — пытаю прыяцеля.

— Гэта мне не пагражае. Калі на маім гарызонце паявіцца выпуклая фігура, я адразу маскуюся і ўцякаю. Нават гітару сваю разбіў на кусочкі, толькі таму, што форма яе напамінае фігуру жанчыны.

Пасля гэтых слоў Кастусь закурыў, глыбока зацягнуўся дымам і пачаў расказваць:

З Міхасём мы вучыліся ў адной школе. Міхась быў хлопцам акуратным: адзыўчывым, сяброўскім, цвярозым — не раўня сённяшняй моладзі. Жылі мы з ім, як з братам, пакуль нашае сяброўства не раздзяліла шчыліна — Міхась ажаніўся. Не прайшло і года, як Міхась пачаў піць. Піў ён рэгулярна, як па чыгуначным расписанні. Я ўгаварваў Міхася: пачаў, маўляў, ад шклянкі, а закончыш гладышкай. Кінь, кажу, падтрымоўваць гарэлачны манаполь. Гарэлка нікога не падтрымае, а толькі з ног зваліць.

— Не мяшайся ў дызенфекцыйныя справы, калі ў прафілактыцы не разбіраешся, — адказвае Міхась.

Бачу, чалавека ратаваць трэба. Явіўся я ў лабараторыю. Доктар доўгая такая, худая, выслухала мяне ды кажа:

— Прыпішу антыалкагольныя пілюлькі. А дзе ж пацыент?

— Гэта не пацыент, а толькі Міхась, сябра — мой сардэчны, — кажу. — Можаце яго пабачыць у буфеце. Ад 8 да 10 гадзін вечара ён выконвае свае абавязкі.

— За п'яніцамі я не ганяюся і без агляду лякарства не выпісваю, — адказвае бюракратка.

— Тады прашу для мяне рэцэпт.

— Вы таксама п'еце? — ядавіта пытае доктар.

— П'ю, як слон, па два літры ў будзень, а калі свята, дык падвойна, — адказваю.

— Не відаць гэтага. Вы ж цвярозы, як вартавы, — сумняваецца доктар.

— Цвярозы з выпадку дня адпачынку. Шэсць дзён п'ю, а сёмы адпачываю, як Бог наказаў. Калі знойдзецца ў вас літроўка 90 градуснага, магу паказаць, як прамываецца жалудак.

Доктар ашчупала мяне як курыцу і рэцэпт выпісала.

Засталося толькі прыдумаць, як Міхасю падаць лякарства. Ён жа сам не клюне пілюлькі, гэта ясна.

Заходжу я да буфетчыка і кажу: справа ў мяне, так сказаць, грамадскага характару.

— Часу ў мяне не хапае грамадскімі справамі займацца. Але калі што маеце, дык выкладайце на буфет, — адказвае памочнік Бахуса.

Палажыў я на буфет пілюлькі, а буфетчык пытае:

— Для мяне гэта, ці мо' для мышэй нейкая атрута?

— Для Міхася, — кажу. — А якая ў яго цяпер норма?

— Дзвесце грам і тры разы піва, — адказвае буфетчык.

— А колькі вы зарабляеце на Міхасёвай норме?

— Вам разыходзіцца аб афіцыяльны заробак ці неафіцыяльны?

— Хто ж сёння жыве на афіцыяльны заробак? Падайце той сапраўдны.

— Раз гарэлка, тры піва — пяць злотых заробку, — прызнаўся буфетчык.

— Дык вось, даражэнькі, нате вам 20 пілюляк. Кожны дзень распускайце адну пілюльку ў Міхасёвым піве. А вось для вас пяць чырвоных сотняў за клопат.

— А калі Міхась выцягне капыткі, хто будзе адказваць? — занепакоіўся буфетчык.

— Не выцягне. Пілюлькі для апетыту. Трэба ж сябру падлячыць. Ён жа такі мізэрны, — паясняю, а сам хлушу, бо ведаю, што не ў інтарэсе буфетчыка лячыць п'яніцаў.

Прайшло два тыдні, заходжу я да буфетчыка і пытаю:

— Што чуваць на фронце Міхасёвага століка? Як норма?

— Лепш не можа быць, — радасна адказвае буфетчык. — Паўлітра і чатыры разы піва!

Бачу, нешта тут не ў парадку. Давай весці следства. Аказваецца, жонцы буфетчыка лекар прыпісаў пілюлькі на апетыт. Але ў аптэцы іх не хапіла. І буфетчык аддаў жонцы мае пілюлькі. А атрыманыя пасля з аптэкі жончыны пілюлькі даваў Міхасю.

— Дазволь, — перабіваю Кастуся. — Але ў тваёй гісторыі я зусім не магу прыкмеціць на першым плане жанчыны. А ты гаварыў, што ўся бяда ад яе.

Кастусь пагасіў недакурка і кажа:

— Жонка Міхася — прычына п'янства, раз. Жонка буфетчыка — два. Калі б не ўпуталіся ў жыццё Кастуся гэтыя бабы, не прапала б надарма пяць маіх чырвоных сотняў.

Дзядзька Лявон